# СКАРБНІЦА НАРОДНАЙ МУДРАСЦІ

«Песні, мае песні,
Дзе я вас падзену,
Пабяру ў хвартушак
Па полі рассею.
А як будзе мне добра —
То буду спяваці,
А як будзе кепска —
Буду забываці».

(З беларускай народнай песні, запісанай настаўніцай Бура Тамарай у вёсцы Тарнаполь, Гайнаўскага павета ў 1958 годзе)

Не за сінімі марамі, не за гарамі высокімі, а вось тут, на Беластоцкай зямлі, з яе смалістымі барамі і ціхімі вёскамі, пад саламянымі стрэхамі хат рассеяны бясцэнныя каштоўнасці беларускай народнай культуры. Яе дробныя, а як жа каштоўныя перлы, узнікалі ў час працы і адпачынку працоўнага люду, перадаваліся з пакалення ў пакаленне, з вуснаў у вусны, папаўняліся, адшліфоўваліся і выраслалі ў чароўныя сваёй мастацкасцю і здзіўляючыя трапнасцю выразу і лаканізмам, творы вуснай народнай творчасці.

У сваіх песнях, казках, легендах, загадках, прыказках (іменна гэтыя творы мы называем вуснай народнай творчасцю) людзі працы горада і вёскі з пакон вякоў выказвалі свае трапныя назіранні з акружаючага іх жыцця, павяралі ім свае запаветныя думы і спадзяванні. Таму іменна гэтыя творы самабытнага народнага мастацтва пратрывалі стагоддзі і часам амаль непарушанымі дайшлі да нашага часу. Захоўваюцца яны ў гушчы насельніцтва нашых вёсак і мястэчак, там, дзе яны ўзніклі, як адна з форм нацыянальнай культуры. Дабрадзействы грамадскасці, як вядома, толькі ў нашыя часы сталі даступнымі працоўным масам.

Разнастайныя па зместу і форме творы вуснай народнай творчасці беларускага насельніцтва Беласточчыны данеслі да нашага часу вобраз невыноснай цяжкай працы паншчынных сялян на панскім полі ў часы прыгону, калі змардаванай працаю жанчыне было не да песень:

«Як жа ж мне спяваці,
Калі слёзы льюцца.
Каб і заспявала —
То людзі смяюцца.
Ні буду спяваці,
Ні буду крычаці,
Бо навошта пана
Сваго раздражаці.
Пан вялікі, строгі
В рабоці паганяе
Для таго ён жартаў
І песень не знае».

(З запісаў Бура Тамары з Гайнаўскага павета) .

І скаргу замужняй вясковай жанчыны, загнанай працай і сямейнымі абавязкамі:

«Ой, каму вольно на гуліцу выйсці,
Ой, каму вольно і пагаварыці.
Дзевачкам вольно на вуліцу выйсці,
Дзевачкам вольно та й пагаварыці.
Бо маладзіцам ні така і воля —
Плачэ дзіціна ў калысцы малая...»

(З запісаў Бура Тамары ад Кацярыны Баршчэўскай, 56 год, вёска Рыбакі, Беластоцкі павет).

Пачуем у народных песнях і смутак дзяўчыны, якую выдалі замуж далёка ад роднага дому:

«Ой, ты думала, матуля,
Што міне не збудзеш,
А ціпер плачэш і наракаеш,
Што міне не забудзеш.
Як ты пойдзеш, мая матулю,
Пад той бор жыта жаці,
Як займеш загонец, постаць
шыроку —
І некаму паджынаці...»

(З запісаў Бура Тамары ад Самасевіч Марыі, 60 год, вёска Рыбакі, Беластоцкі павет).

Але не толькі песні — вечныя спадарожнікі працоўнага жыцця чалавека, з'яўляюцца выказнікам дум селяніна. Сваю шматвяковую практыку ў вядзенні сельскай гаспадаркі ён выразіў у кароткіх, але вельмі трапных прымаўках і прыказках, як напрыклад:

«Сена ў капіцах — сенакосу палавіца».

З запісаў аўтара ў вёсцы Кабылянка, Беластоцкі павет).

Назіранні над пагодай і порамі года выказаны ў трапнай заўвазе:

«Пасля Ганкі — халодныя вечары і ранкі».

(З запісаў аўтара ад Зіневіч Марыі, Міхалова, Беластоцкі павет).

(Дзень Ганны адзначаецца ў праваслаўным каляндары 7 жніўня).

Не толькі сказ аб мінулым змяшчаюць у сабе творы народнай творчасці. Багатая ў разнастайныя праявы жыцця сучаснасць магутнаю хваляй урываецца ў вусную народную творчасць і знаходзіць свой выраз у шматлікіх легендах аб партызанскай барацьбе ў час апошняй вайны на тэрыторыі Беласточчыны.

У цяперашні час форма кароткай прыпеўкі — частушкі заваявала пяршынства сярод іншых відаў вуснай народнай творчасці. У кароткіх частушачных куплетах наша моладзь выказвае свае адносіны да жыцця, з усімі яго праявамі, кахання, сяброўства, працы. Усё, што дастойна ўвагі чалавека, мігам трапляе ў частушку. Частушка па сваёй форме дазваляе выказаць багацце прыроднага гумару і вясёласці — характэрных беларускаму народу:

«Я палезу на гару
Нарумняю румяну.
Хоць я сама не хароша,
Харашога падману».

«Дайце тычку змераць рэчку,
Чы дастану я да дна.
Дайце карты спагадаці,
Чы ў мілёнка я адна.

Далі тычку змераць рэчку.
Ой, дастала я да дна.
Далі карты спагадаці —
Я адзінаццатая!»

(Пачула і запісала ў Шэрнях Бельскага павета Місеюк Іра)

У малым артыкуле няма магчымасці падаць большую колькасць прыкладаў твораў народнай творчасці, якія бытуюць сярод беларускага насельніцтва Беласточчыны. Мы абмежаваліся толькі некаторымі ўрыўкамі тых запісаў, якія амаль штодня паступаюць з розных старон Беласточчыны ў архіў Беларускай секцыі Польскага людазнаўчага таварыства, якое ўзнікла пры БГКТ у Беластоку.

Самыя каштоўныя запісы беларускай народнай творчасці Беласточчыны будуць перыядычна публікавацца ў выданнях ГП БГКТ і «Ніве». Аматараў беларускага фальклору запрашаем да супрацоўніцтва ў высокародным пачыне зрабіць даступнымі шырокаму колу даследчыкаў і аматараў твораў народнай культуры — няўміручай скарбніцы народнай мудрасці — беларускай народнай творчасці Беласточчыны.

**Сакратар Беларускай секцыі**
**П. Ль. Т.**
**МГР. М. ГАЙДУК**

## РЫХТУЕЦЦА БЕЛАРУСКІ НАВУКОВЫ ЗБОРНІК

Вельмі плённым і канкрэтным было апошняе пасяджэнне Беларускага навуковага гуртка, якое адбылося 19 верасня ў Беластоку.

Навуковым сакратаром гуртка выбрана мгр. Уладзіміра Юзвюка на месца выбыўшай мгр. Марыі Якубюк.

Асноўнай справай пасяджэння быў тэматычны план рыхтуемага да друку навуковага зборніка. Абмеркавана шмат з прапанаваных для публікацыі навуковых прац з галіны эканомікі, гісторыі, этнаграфіі, мовазнаўства і літаратуразнаўства. Цікава падкрэсліць, што большасць тэматыкі гэтых прац прысвечана перадусім Беласточчыне.

Зацверджана таксама склад рэдакцыйнай калегіі навуковага зборніка, запрапанаваны яго рэдактарам мгр. Георгіем Валкавыцкім. І так, у склад рэдакцыйнай калегіі ўвайшлі: — мгр. Мар'ян Пяцюкевіч, мгр. Уладзімір Юзвюк, мгр. Васіль Белаказовіч, мгр. Аляксандр Баршчэўскі і мгр. Мацей Канапацкі. (ся)

вышэй. Крыся паабдзіралася аб кусты, але не заўважыла. Узабраўшыся на гару, закрычала:

— Глядзіце, унізе Вілія!

І змоўкла, зачараваная.

Мне месца было добра знаёмае, я толькі заўважыў:

— Гэта яшчэ нішто. Во, я ведаю гару! З яе горад, як на далоні! Можна палічыць царквы і касцёлы. Нават Замкавая гара і гара Трох крыжаў адтуль унізе...

— Давайце туды сходзім! — на маё вялікае здзіўленне папрасіла Крыся.

— Можна... — адказаў я заклапочаны: ісці ў гэтую хвіліну не было часу, ды і мой ідэал пачаў тапнець, надзвычай лёгкая перамога мяне ахапіла Адначасова гэтая шчуплая з тонкім профілем паненка ў просценькай сукеначцы ў сінюю клетачку мяне прыцягвала.

— «Не, не зараз. Калі-небудзь потым! — супакоіла яна, убачыўшы на маім твары нерашучасць.

Я пашкадаваў ужо, што не злавіў на слове і не прапанаваў, напрыклад, ісці сёння вечарам, ды прыдатнага моманту вярнуць было нельга.

— Трэба ісці, дома будуць хвалявацца! — спаважнела Крыся. — Хадзем!

Яна лёгка і адважна збегла з гары, зняла тапачкі, абутыя на босую нагу, стукнула адзін аб адзін, зноў надзела і накіравалася да вёдзер. Нездаволены сабою, пайшоў і я.

На вуліцы мы ветліва развіталіся, і я падаўся на кватэру, азіраючыся ў бок генералавага падворка.

3

Вярнуўся я з пустымі вёдрамі ў яр і задумаўся над студняй. Яна стала для мяне незвычайнай. Як до-



бра, падумаў я, што над студняй няма калаўрота, якія бываюць на вёсцы, бо тады вісеў бы тут прымацаваны ланцуг і я з Крысяй не сустрэўся б. Палез на гару, знайшоў ляшчыну. Вось за гэтае месца яна трымалася. І калі я ўзяў ад яе кій, тады ён быў цёплы. Я пагладзіў ляшчыну і захаваў у кусты.

Нанасіўшы вады, прайшоў на вуліцу. Усё пачалося ўчора вось з гэтага месца.

Каб тратуар тут быў крыху шырэйшы, а вадасцёкавы ровік не такі глыбокі, яна мяне і не заўважыла б, проста абышла б брукам. Мяне ўразіла думка: магчыма, яна і да студні прыйшла пад дзеяннем падсвядомага пачуцця пасля нашага спаткання?

Я па натуры такі, што, калі мяне што ўсхвалюе, збіраюся і куды-небудзь іду. І ў гэтую нядзелю я няведама колькі хадзіў па Вільні і марыў. Кранутага ўвагай і абаяльнасцю Крысі, мяне насіла па горадзе, як на крыллях. Быццам Крыся хадзіла са мной.

Для мяне, як пасля ночы, наступіў дзень. Зрабілася лягчэй дыхаць, весялей жыць. Я прамянеў і шчасцем і з пачуццём перавагі сустракаў залётныя позіркі дзяўчат і жанчын. Эх, якімі ж яны ўсе здаваліся мне смешнымі і наіўнымі! Я верыў, што з Крысяй — можа не хутка, праз тыдзень, або месяц, — а абавязкова зноў так блізка сустрэнуся. І ад радасці мне захацелася бегчы дахаты, легчы, траспаць увесь гэты час, каб не мучыцца чаканнем.

4

Аднаго майскага дня, у нейкае свята, я праходзіў над Віліяй. На ўзбярэжжы па тратуары плылі патокі людзей. Мяне насцеражыў дапытлівы нейчы позірк. Я ўважліва прыглядзеўся, падумаў, што



гэтую смуглявую чарнавокую студэнтку я ўжо недзе спатыкаў. Я не адводзіў вачэй, мусіць, таму студэнтка пасмялела і накіравалася да мяне. Я натужліва ўспамінаў, адкуль яе ведаю.

— Дзень добры!.. Вы мяне забылі? — з дакорам спытала яна.

— Памятаю... Не забыў... — схлусіў я, жмурачы вочы, бо бліскучы казырок студэнцкай шапкі ў мяне перад носам надта сляпіў.

— Вольга. Давайце пазнаёмімся. Бо тады не было часу — падала яна руку і бянтэжліва ўсміхнулася.

Толькі тады я пазнаў, хто гэта. У час бойкі ля ўніверсітэта яна дапамагла мне апрытомнець. А ўспомніў па адной прыкмеце. У дзяўчыны вырасла многа зубоў. Яны не змяшчаліся на сківіцах у рад, а павылазілі як змаглі: бокам, наўскос. Таму цяпер перада мной Воля, усміхаючыся, старалася не адкрываць рота. А я наіўна і бессаромна глядзеў ёй у рот. Воля пачырванела. Апамятаўшыся, нарэшце, я адвёў вочы.

— Ну, як жывеце? — пацікавілася яна, авалодаўшы сабой.

— Жыву... — не зусім прыязна адказаў я.

Паўзіраўся зноў на студэнтку. І кінуліся мне ў вочы трэшчынкі на казырку яе шапкі, зацыраваны каўнерык кофты, якая ўжо добра выцвіла на сонцы, і скрыўленыя туфлі. Успомнілася вопратка Крысі — лёгкая, свежая, новая, пахучая, яна сама.

Калі сустракаюцца два нармальна выхаваныя чалавекі, дастаткова аднаму з іх нешта спытацца і адразу завяжацца гутарка. Але я — адзіны сын у бацькоў — рос на хутары, да размовы ў кампаніі, а з дзяўчатамі асабліва, тады быў няздатны. І я паводзіў сябе перад студэнткай, як школьнік.

(Працяг будзе)

